Кажэце: „мы тут не колоністы і ня хочэмо быць колоністамі; мы, палякі, тут—дома, мы—гаспадары ў гэтым краю і маемо права аб долі яго і аб сабе, як такіх, судзіць“.

Адкажэм вам: маеце права гэтулькі, паскольку прызнаеце нашу літоўска-беларускую гасударственасць. Але я ведаю, да чаго вы кіруецеся: вы хочаце тут, у гэтым нешчаслівым нашым краю, раздзіраным нялічэнымі праціўнасьцямі, зрабіць ешчэ адну крывавую рану—утварыць польскі Ульстэр, супроць беларускага характера гэтаго краю выстаўляючы ваш „уласны“ нацыональны характэр; мэта ваша — стварыць гасударство ў гасударстве з усемі яго прыналежнасьцямі, с сецьцю шчупальцоў, раскінутай па ўсім краю дзеля высысываньня яго нацыональных асобнасьцей, дзеля дэнацыоналізацііі. Раз стануўшы на фальшывым—процікраёвым становішчы, вы топчэцеся ў зачарованым коле, шукаючы выхаду, каторы вось перад вамі широка адчынен; а гэта ёсць: прызнаньне сябе за грамадзян Беларускаго краю і прыняцьце ўсіх выплываючых з гэтаго далейшых консэнквэнцій і абавязкоў, хаторые ускладае на вас такое прызнаньне.

С прычыны таго. што будучая беларуска-літоўская гасударственасць, само сабой разумеецца, будзе апірацца на дэмократычных і лібэральных асновах, нацыональные і культурные правы ўсіх іншых нацыональнасьцей гэтаго краю будуць, як трэба, забаспечэны—аднак, с тэй умовай, што'яны прызнаюць ядыную гасударственасць—літоўска-беларускую. Бо німа даўнасьці для правоў народу, і гасударственасць, трываўшая цэлые сталецьця пад іменем Беларуска-Літоўскай дзержавы і загубленая сто лет таму назад, мусіць быць вернена паўстаўшым да новаго жыцьця беларусам і літвіном, адвечным гаспадаром гэтаго краю, яго жывым массам народным. Гэтые массы маюць права самі пастанавіць аб сабе, быць панамі на сваей зямлі, і ўсё іншае павінно падчыніцца гэтай магутнай волі масс—большасьці.

Дык вось для вас, паны „палякі“, ёсць толькі два выхады: або прызнаць сябе за грамадзян гэтаго краю, за сыноў гэтай зямлі і стануць у адзін рад з народам, між каторым жывецё, — або прызнаць сябе за асобную нацыональнасць, чужую для гэтых масс — нават варожую да іх, бо з захватнымі апэтытамі, нязгодную уступіць захопленых становішч, заздросна пілнуючую свайго „стану ўладаньня“.

Перад вамі, паны „палякі“, дзьве дарогі. У гэты асабліві момэнт вы апынуліся на розстані і маеце на выбар адно, ці другое. Найбліжэйшая будучына пакажэ, што ў вас прамовіць ямчэй: грамадзянскае сумленьне, пачуцьцё абавязку перад народам, с каторага вы вышлі і сярод каторага жывецё, народам, каторы ёсць, жыве і клічэ вам: „памажыце!“—чы мо' ваша дэзор'ентація нацыональная і палітычная, фальшывае нацыональнае становішчэ, жаданьне захватоў. І або вы пойдзеце поплеч з людам вашым, як яго старшые браты, прыяцелі і бацькі, і, падаўшы яму руку, паможэце яму выйсьці на дзеннае сьвятло — да таго сонца самабытнасьці, на каторае мае права кожын народ, хоць бы цэлые сталецьця прабываў у цемры, забыцьці і занедбаньні,—або ў злучэных радох выступіце, як ворагі яго права на самаазначэньне, на будову ўласнай гасударственасьці, ўсюды і заўсёды нішчучы работу яго.

Прабіла гісторычная гадзіна, каторая выявіць вашу палітычную мудрасць і дасьпеласць, ці вашэ засьляпленьне і палітычнае банкруцтво. І або нашы дарогі пойдуць адным шляхам да далёкай яснай будучыны, або разойдуцца і будуць усё болей расхадзіцца—на векі.

Вы, панове „польскіе“ інтэлігэнты на зямлі Беларускай, палітычна, культурна і нацыональна абязсілелі, і ўся ваша работа выяўляецца ў нэгаціі (адкіданьні), або ў тым, што вы сьлепа дзержыцеся застарэлых і утраціўшых цану клічоў і формул,—зусім бытцым тые зубры, каторые сілай канечнасьці засуджэны на павольнае выміраньне, бо вы утрацілі звязь з вечна маладой крыніцай сьвежых сіл народных. На паваpоці да гэтай крыніцы, на чэрпаньні з яе сьвежых жыцьцёвых сокаў і дачы з іх падмогай адпору ўселякаму замяжоваму націску, ўсё роўна з якога боку, аснована будучына, аснованы бязцэнные кругазоры і магчымасьці! І калі віленская маладзёж, уздзеўшы на галаву „рогатывкі“ ды начапіўшы арла, думае, бытцым яна споўняе патрыотычны ўчынак,—дык якуюж страшэнную абмылку яна робіць, як кепска асьвядомлена! Ня Польшчу трэба тут цяпер будаваць, а нашу ўласную дзержаву; не арла, а погоню насіць; не „рогатывкі“, але простые мужыцкіе шапкі, якіх ужывае тутэйшы народ; не шматфарбны кракаўскі убор, пекны, але чужы, а сівая сермяга нашаго хлебароба — вось нацыональная опратка! Сюдой дарога—з народам і праз народ! Не вы цягніце яго за сабой у чужые для яго, незнаные староны, але самі ідзіце за ім—туды, куды ён жадае! У гэтым—праўда, рэальная, позытыўная праўда, будаўніцтво ад асноў; ў гэтым - кліч на сягоньняшні дзень; у гэтым—будучына!

Вы, паны тутэйшые інтэлігэнты, утраціўшые жывую звязь с тутэйшым народам, калі б замест шукаць для сябе ідэалоў у Варшаве або Кракаве, замест паддавацца патрыотычным настраеньням ад кракаўскіх танцоў і ўбораў, былі ў бліжэйшай еднасьці з нашым народам, каліб б вы уважліва, с пашанай і тклівасьцю, а мо' і с пачуцьцём унутрэнаго сораму прыгледаліся лепей да шэрай долі тутэйшаго селяніна, каторы с пакаленьня ў пакаленьне, ціха і без нарэканьня, ад калыскі да магілы ў поце чэла гарэ бацькаўскі палетак, ажно пакуль, аслабеўшы і зморэны, с пакорнасьцю волі Божай не паложыць сваю змучэную, пасівеўшую галаву ў дамавіну, каліб-вы—з другога боку—прыгледаліся бліжэй да таго маладога беларускаго руху да адраджэньня, каторы, бытцым кволая ешчэ, скромная красачка ў цяню развівае свае колеровые пялюсткі, да таго руху, поўнаго гарачаго патрыотызму і жаданьня вырвацца к сонцу, к праўдзе, к жыцьцю, — дык можэ ў сэрцы сваім вы бы выкрылі вялікую праўду, што тут вашы браты, тут ваш люд, тут ваша Бацькаўшчына,—што у гэтым ваша будучына і згэтуль павінны вы чэрпаць свае палітычные аспірацііі ідэалы, вашы патрыотычные абавязкі.

---

А тым нямногім, хто здалее вызваліцца с цесных і утраціўшых цану формул, абняць вокам шырокіе кругазоры і думкай далёка сягнуць у будучыну, я дабаўлю: паводлуг нашаго глыбокаго пераконаньня, новая палітычная мысль, каторую мы сабой прэдстаўляем,—гэта ядыная правільная, ядыная абаснованая—ядыная творчая мысль.

*Казімір Шафнагель.*

---

# У Вільні і ваколіцах.

× **Бэларускі тэатр.** У п'есе „Каліська“, апрача самаго аўтара, каторый ірае главную ролю работніка Ягора, іграюць: К. Стэфановічанка, М. Булгакоўна, Я. Кучко, Цыуль і ін. Апрача таго за сцэнай будзе пеяць хор, складаючыйся болэй чымсі з 20 асоб.

× **Дарэмные просьбы.** Нямецкіе ўласьці апавешчаюць, што ўсё часьцейшые за апошні час просьбы жыхароў аб пераносі і разборцы пакінутых уцекачамі дамоў ня могуць быць споўнены. Уцекачы, вярнуўшыся з Расеі, павінны знайсьці свае дамы ненарушэнымі, сколькі гэта магчымо.

× **Паніжэньне цаны мяса.** Па загаду Stadthauptmanna у крамах з мясам цэны паніжэны проці даўнейшых на 25%. Новые цэны вывешэны на відочных мейсцах.

× **Праверка пашпартоў.** На Зялёным мосьце і ў іншых пунктах міліцыя затрымлівае прахожых і праверае пашпарты. Хто не мае пашпарту пры сабе, таго карацімуць штрафам.

× **Бытцым у „добрые часы“.** Нейкі станіслаў Рэйсль, напіўшыся п'яны, пачаў рабіць на вуліцы авантуры с прахожымі, каторые яго пабілі так моцна, што Р. трэба было зрабіць пэрэвязку на станціі скорай помачы.

---

# Беларускіе легенды.

## Начэпнасць.

(Гл. «Гоман» № 85—86).

За другім сталом седзючы, глядзелі на гэта і дзівіліся.—Максім, што першы прыйшоў у карчму і ўжо добра падпіў, засьмеяўся голасна і закрычаў:—Ого! браце, відаць ты багаты, калі п'еш панскую гарэлку, пэўне начаваў ля Вужова Каменя і знайшоў грошы, або можэ Арына, твая цешча, сваімі чарамі насыпала табе іх поўные кішэні.—Маладзец!

— Калі ня п'юць, то й не дзякуй,—адказаў Васіль,—бо пакажу зара, што другі раз ніколі не адважышся чаўпці німа ведама што.

— Мне пакажэш—ой, ой! глядзеця, ўжо навучыўся чараваць ад Арыны, пакажэ! глядзі, каб ня быў кульгавы, як твая цешча, — а ці ты ведаеш чаму яна троху кульгае на левую нагу?

— Маўчы, калі с табой ніхто ня хочэ гукаць.

— Ніхто ня хочэ гукаць, дык будуць слухаць, а я разкажу ўсім; — паслухайце, раскажу вам, чаму Арына кульгае, гэта ён зробіў, Грышка, сам мне расказваў пад сакрэтам.

Раз у вечары па заходзе сонца ён з касой варочаўся дамоў і пачуў голас чараўніцы, каторая выклікала каровы, завучы кожную па масьці. Ў вечары чуваць было, як па вёсках каровы аказываліся рыкам; зарыкалі таксама і ў яго хляве. Ён спалохаўся, думае: адбярэ малако, бяжыць туды, адкуль чуваць быў голас, каб даведацца, хто ёсць чараўніца; — цікуецца, і што бачыць? — Арына седзючы разчухраная на плоце чаравала.

Будзе блага,—падумаў сабе, трэба як небудзь бараніцца. Дык бяжыць дамоў і кладзе на вароцех хлева сьвянцоную ваду і васковую сьвечку; ледзь адышоўся некалькі сігнёў [1]), бачыць, прылятае сарока, раскідае зельле і дзяўбе сьвечку. Грышка бяжыць у хату, хапае стрэльбу, набітую дробным шротам; стрэляе—пасыполася пер'я, сарока аднак уцекла.

Назаўтрае ён пачуў, што Арына ранена у левую нагу і ляжыць хворая. Зразумеў усенька і думаў сабе: мае памятку, але будзе спаганяць злосць, і запраўды заламала на яго залом у жыці, але ён залом спаліў на асінавых дрывах, і чараўніца сама бязмала ня згінула.

Васіль у злосьці хапіў бутэльку і пусьціў на Максіма, траціў у самые грудзі, скочылі адзін да аднаго, і пачалася бітва.

Шчасьце, што з блізкаго двара аканом ехаў конна і, чуючы дзікі крык аляндара, закіраваў да карчмы. Іосель прыбёг да аканома.

— Ай, паночку! ўбіўства ў карчме, што гэные п'яніцы шкоды мне наробілі!

Аканом саскачыў с каня, мешаецца ў людзі і крычыць, што заўтра за п'янства ўсіх пакарае—і кожны мусіць заплаціць за зробленую шкоду; гам зара ўціх.

Аканом гоніць іх с карчмы і кажэ ўсім ісьці дамоў. Усе разышліся, пастрашаючы адзін аднаго.

Іосель расказаў аканому ўсё, як было, апраўдаваючы аднак Васіля.

— Трэба аб гэтым пагукаць с панам; дурные выдумляюць самі ня ведаюць што, крыўдзюць толькі бедную ўдаву і дзяўчыну, каторая зусім нявінна. Зюкаюць аб нейкіх чарах Арыны, я гэтаго не дазнаў, ведаю тыкеля, што яна зельлям людзём памагае.—Ось надовічы сам бачыў, як у двары паненцы Тэрэсі вылячыла кругі (лішай) на твару. Праўда, што, кладучы ў сьцюдзёную ваду нейкіе каменчыкі, шаптала, і сьцюдзёная вада пачала кіпець, бытцам на агні, загадала мыць таей вадой твар, і Тэрэса зразу ачуняла. Гэткіе чары не тыкеля нікому ня шкодзюць, але яшчэ памагаюць.

— Пан аканом шчырую праўду кажэ, ніхай пан гэтак скажэ паном, а то жаль бярэ слухаць, як людзей крыўдзюць. Ай, была ў мяне добрая гарэлка салодкая; бутэльку разбілі п'яніцы і гарэлку выпілі. Сара, падай—там яшчэ ёсць крыху салодкае гарэлкі—падай сюды пану аканому — і закуску прынясі. У мяне ё шчупак.

Аканом выпіў гарэлкі, закусіў, супакоіў аляндара, што яму за ўсё заплацюць,—сеў і паехаў.

(Далей будзе).

[1]) Сігень—крок, шаг:

**Італьянскі тэатр.**

Італьянскіе сілы, памыкаўшыеся загарадзіць нам дарогу з гор у даліну, адкінуты магутным ударам. У вечары нямецкіе войскі ўварваліся ў загарэўшыйся Цівідале — першае места ў даліне. Італьянскі фронт да самаго Адрыатыцкаго мора адступае. На ўсей лініі нашы корпусы ціснуць ворагоў. Гэрц, за каторы йшло гэтулькі бітв на Ізонцо, ўзят сягоньня раніцай аўстрыяцкімі дывізіямі. Узяты больш за 80.000 палонных і больш за 600 гармат.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ШТОКГОЛЬМ. Парлямэнт і сэнат Бразыліі ўсемі галасамі прынялі рэзолюцію аб палажэньні вайны між Бразыліей і Нямеччынай.

ПАРЫЖ. (Гавас). Парлямэнт перэвагай 288 галасоў проці 137 высказаў давер'е міністэрству пасьля заявы новаго міністра заграні́чных спраў, Барту, аб патрэбе вярнуць Францыі Эльзас-Лётарынгію, атрымаць заплату за страты і заверэньня на будучыну.

ПАРЫЖ. (В.Т.Б.). Амэрыканскі генэральны штаб апавешчае:

Некольki батальёнаў нашаго першаго экспэдыцыйнаго корпуса занялі мейсцо на пазыціях побач с францувамі супроць ворагоў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). На усходнім беразі Англіі і ў Паўночным моры ізноў затоплены 6 параходаў і 1 парусьнік ёмкасьцю разам 26.000 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіані і ў канал Ляманш мы ізноў затапілі 29.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У канал Ляманш і ў Паўночным моры нашы падводные лодкі ізноў затапілі 18.500 тонн.

На поўначы ад Остэндэ 27 кастрычніка паабедзі нашы мінаносцы і лятуны атакавалі лёгкіе сілы ворагоў. Ворагі пасьпешна адступілі. Відаць было некольki ўзрывоў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ізноў затапілі навакол Англіі 4 параходы і 1 парусьнік.








# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прыслаць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначэные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## Навуковые даступные для усіх.

| Назва | Цэна руб. | кап. |
|---|---|---|
| біс Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісменнік. Біографічны нарыс Р. Зэмкевіча | — | 20 |
| Praktyčnye rady ab harodnictwie | — | 7 |
| Гутаркі аб небі і зямлі з рысункамі | — | 15 |
| біс Цукер, В. Тройцы | — | 3 |
| біс Гутаркі аб гаспадарцы | — | 3 |
| біс Як ратаваць уздутую жывёлу | — | 3 |
| біс Як бараніцца ад халеры | — | 1 |
| біс Як рабіць добрые рамовые вульлі | — | 5 |
| біс Зямельная справа у Новай Зэляндіі | — | 3 |
| біс Кароткая гісторыя Беларусі—Власта | — | 60 |
| Bł. Andrej Boboła mučynik | — | 5 |
| Pčalina—żywiołka małaja a karyści daje mnoha | — | 30 |
| Як багацеюць чэскіе селяне | — | 10 |
| Як выбіраць дэпутатоў у Гас. Думу | — | 3 |
| На дарозе да новаго жыцьця. А. Новіны | — | 20 |
| Alkahol | — | 2 |
| Rady dla matak | — | 3 |
| Św. Jozafat Kuncewič | — | 3 |
| Našto biełarusam gazety | — | 3 |
| Колькі слоў аб дзявочай опратцы на Беларусі | — | 10 |

## Беларускіе тэатральные творы.

| Назва | руб. | кап. |
|---|---|---|
| Хам. Абраз у 4-х дзеях, Э. Ожэшко | — | 70 |
| Сватаньне. Жарцік у 1-й дзеі, Чэхова | — | 25 |
| Мядзьведзь. Жарцік у 1-й дзеі, А. Чэхова | — | 30 |
| Міхалка. Камэдыя у 1 дзеі | — | 35 |
| Па рэвізіі. Абраз у 1 дзеі, Кропіўніцкаго | — | 35 |
| Пашыліся ў дурні. Жарт Кропіўніцкаго у 3-х дзеях | — | 60 |
| Як яны жаніліся. Жарт у 1 дзеі, А Володськаго | — | 30 |
| «Паўлінка», камэдыя у 2 дзеях, Я. Купалы | — | 75 |
| Снатворны мак. Сцэна для дзіцячых тэатроў | — | 10 |
| Betlejka | — | 5 |

## Беларускіе музыкальные творы.

| Назва | руб. | кап. |
|---|---|---|
| Беларускі песеньнік з нотамі | — | 15 |
| Biełaruskie pieśni z notami I čaść. Sabraŭ A. Hrynewič | — | 30 |
| Biełaruskie pieśni z notami II čaść. Sabraŭ A. Hrynewič i A. Ziaziula | — | 25 |
| Беларускіе песьні разложэные на 4 голасы; адна песьня у 4 галасох 10 к., кожны голас | — | 3 |
| Чамуж мне ня пець. Ой ляцелі гусі. Дый кудыж ты. Ой пайду я лугам. Ды ўжо сонейка. | | |
| біс А хто там ідзе? Я. Купалы, муз. Рогоўскаго | — | 10 |

## Гадавікі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наша Ніва 1906 году | 1 р. — к. | Наша Ніва 1910 году | 3 р. — к. |
| „ „ 1907 „ | 15 р. — к. | „ „ 1911 „ | 3 р. — к. |
| „ „ 1908 „ | 5 р. — к. | „ „ 1912 „ | 5 р. — к. |
| „ „ 1909 „ | 3 р. — к. | „ „ 1913 „ | 2 р. 50 к |

Календары 1910, 1911, 1912, 1913, 1914 г. па 15 к., 1915 г. па 20 кап. 1916 г. па 15 кап., 1917 г. па 20 кап.

## Повесьці і апаведаньня прозай.

| Назва | руб. | кап. |
|---|---|---|
| біс Гэдалі, Э. Ожэшко | — | 6 |
| біс Казка аб вадзе | — | 3 |
| Архіп і Лявонка,—М. Горкаго | — | 8 |
| У дому лепей.—Новіча | — | 4 |
| „Маладая Беларусь“. Сэрыя I-я сшытак 1-шы | 1 | — |
| „Маладая Беларусь“ „ „ сшыт. II-гі | 1 | — |
| біс Зборнік «Нашай Нівы» № 1 | — | 15 |
| біс Зборнік «Нашай Нівы» № 2 | — | 20 |
| Амэрыканец—А. Новіча | — | 10 |
| Бярозка і др.—Ядвігіна Ш. | — | 5 |
| Беларускіе казкі | — | 5 |
| Хілібэртава пакута, Амфітэатрова | — | 5 |
| Апаведаньня—Тараса Гушчы | — | 10 |
| Abrazki — Zmitraka Biaduli | — | 15 |
| „Маладая Беларусь“. Сэр. 1-шая. Сшытак 3 | 1 | — |
| Колядная пісанка 1913 г. | — | 10 |
| Нёмнаў дар—Тараса Гушчы | — | 6 |
| Тоўстае палена — Тараса Гушчы | — | 5 |
| Апаведаньня — Галубка | — | 6 |
| Праклёнышы — Л. Гвозда | — | 6 |
| Аб чым шэпацелі лісьця | — | 6 |
| Стражнік.—Сцёпкі Бірыло | — | 10 |
| Васількі. Зборнік апаведаньннёў Ядвігіна Ш. | — | 30 |
| Родные зьявы. Зборнік апаведаньнёў. Т. Гушчы | — | 60 |
| Ня ўсе-ж разам ягомосьці!—Апаведаньне Лесіка | — | 5 |
| Сыгнал. Апаведаньне Гаршына | — | 5 |
| Якім бяздольны. Петры Беларуса | — | 10 |
| Рунь. Зборнік апаведаньнёў Максіма Гарэцкаго | — | 40 |
| Вялікодняя пісанка. Зборнік | — | 30 |

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: **Wilnia, Wallstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**


Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.